# Бі нядужага мацней

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.*

–Мужчына ў камізэльцы... Ці бачылі вы яго?– звярнулася да жанчыны, якая гандлюе булачкамі на вакзале. Усхліпваючы, паведаміла спагадлівай слухачцы пра свае нягоды.

– Бяжы ў дзяжурку да міліцыянераў,– параіла гандлярка.

Праз блытаніну слоў міліцыянеры зразумелі сэнс здарэння. Суцешылі, што дапамогуць:

–Швэндаецца тут падазроны бомж. Напэўна, ён!

Кавалеўскі стаяў ля вакзальнага кіёска з думкай выпіць. Да яго падышоў чалавек у форме і папрасіў прад'явіць дакументы. Зянон паказаў даведку, што месяц таму, у маі 95-га вызваліўся з месца зняволення ў Ваўкавыску. Праз некалькі хвілін да яго зноў падышлі. З дзяжурнымі міліцыянерамі быў адзін у цывільным.

–Мы з крымінальнага вышуку чыгуначнай міліцыі. Прайдзіце з намі.

У дзяжурцы адбылася вочная стаўка.

–Ён?– спыталі ў Іны.

–Здаецца, не падобны. Той быў у камізэльцы.

–Ён-ён, злодзей!– вырашыў міліцыянер.– Перадаў выкрадзенае сябру. Ваш пакет, напэўна, ужо на іншым канцы горада. Але мы ўсё "раскруцім".

Як сведчыў Зянон, яго спачатку прымусілі выпіць шклянку гарэлкі. Карэктна ўгаворвалі падпісаць прызнанне ў злачынстве. А калі не пагадзіўся– пачалі біць. Кулакамі, нагамі, галавой аб сцяну.

–Не біце. Я хворы. У мяне туберкулёз,– крычаў ён.

Рэагавання на ўпрошванне не было. Іна бачыла гэта, хаця міліцыянеры параілі ёй глядзець у акно.

–Ці ты прызнаешся, ці я цябе заб'ю,– пагражаючы пісталетам, палохаў бамжа дзяжурны.

–А калі ён не падпіша?– нерваваўся чалавек у цывільным.

–Нічога. Пасядзіць у склепе– усё падпіша,– запэўнілі яго.

Міма перапалоханай Іны акрываўленага Зянона павялі ў будынак чыгуначнай міліцыі. На вочы ёй трапіла пакінутая ў пакоі дзяжуркі вопратка. Яна была ў крыві.

Кавалеўскі падпісаў прызнанне, што яго знайшлі міліцыянеры ля будынка кампрэсарнай з выкрадзенымі прадуктамі. Маўляў, гэта ён учыніў злачынства. Да справы быў прышыты квіток аб выняцці грошай у арыштаванага. 285 рублёў– уся наяўнасць.

Гэтага было дастаткова, каб у чарговы раз Зянон Кавалеўскі трапіў у турму. Аднак... Яго накіравалі ў Мінскі следчы ізалятар. У прысутнасці супрацоўніка аддзела па нагляду за расследаваннем крымінальных спраў цялесныя пабоі зафіксавалі ў медыцынскую картку. Кавалеўскі піша на супрацоўнікаў чыгуначнай міліцыі скаргі ў пракуратуру чыгункі, пракурору РБ, у аддзел па нагляду: "...Справа сфабрыкаваная з-пад кулака, бо знайсці сапраўднага злачынцу ў іх, напэўна, не хапае розуму."

Скаргі (як звычайна) перанакіравалі ў тую самую чыгуначную міліцыю. А па запыту апошняй і самога Кавалеўскага з Мінска часова суправадзілі ў Маладзечна. На допыце ў следчага чыгуначнай міліцыі Зянон падпісаў дрыжачай рукой другое сваё прызнанне ў злачынстве. У гэтай надрукаванай паперы адзначаюцца вельмі карэктныя паводзіны супрацоўніка чыгуначнай міліцыі ў адносінах да Кавалеўскага.

Калі ж з Маладзечна ён вяртаецца ў Мінскі следчы ізалятар, ізноў накіроўвае скаргі ў аддзел па нагляду за расследаваннем, у Беларускую Лігу па правах чалавека. Просіць даць адваката. Трэба думаць, яму дапамог спагадлівы супрацоўнік аддзела па нагляду за расследаваннем крымінальных спраў.

Маладзечанскі гарадскі суд некалькі разоў разглядаў справу Кавалеўскага. У снежні вынес апраўдальны прыгавор. Мінская транспартная пракуратура апратэставала такое рашэнне. Аднак судовая калегія пратэст адхіліла. У сакавіку ўзбуджана крымінальная справа на супрацоўнікаў чыгуначнай міліцыі па факту перавышэння ўлады, памылак пры даследаванні.

Можа, пройдзе час, і Зянон Кавалеўскі зноў трапіць у турму за якое-небудзь злачынства. То будзе іншая гісторыя. А гэтая дае надзею, што нейкая справядліваць існуе, нават калі ты зусім бездапаможны, нядужы.

*Святлана САРОКА*

# Юрый Антонаў раіць

***МАЛАДЗЕЧНА. Лаўрэат расійскай прэміі "Овация" Юрый Антонаў сюжэт для праграмы НТВ прыехаў здымаць у горад, дзе вырас.***

Мясцовае музычнае вучылішча па праву ганарыцца былым навучэнцам. Хаця ўласна на таленты тут зважаюць цяпер непараўнальна больш.

Вось і ў маі ММУ абвясціла прыём здольных юнакоў і дзяўчат на спецыяльнасці "Разьба па дрэву і дрэваапрацоўка" і "Салома, лён, папера (выцінанкі)". Амаль праз тры гады патэнцыяльныя навучэнцы атрымаюць кваліфікацыю выкладчыка, мастака-майстра.

Заяву можна прынесці да 5 ліпеня, затым усіх чакаюць экзамены па малюнку, дэкаратыўнай кампазіцыі, дыктоўка па беларускай мове.

Хаця апошні іспыт вам могуць замяніць– на вусны і пісьмовы па рускай мове. У тым выпадку, калі беларускую раней не вывучалі.

А яшчэ Маладзечанскае музычнае вучылішча 30 мая праводзіць дзень адкрытых дзвярэй, што абяцае свята лакальнага маштабу.

Апошнім часам моладзь раёна ўсё ахвотней прыязджае сюды на вучобу. Тэлефануйце ў Маладзечна 52867 ці 53643. Антонавым ці Рэмбрантам вы, магчыма, і не станеце, але шанец ёсць заўсёды.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

# "Белстар-М" не пара для "Белстара"

***МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовая фірма "Белстар-М" ажыццяўляе ў рэгіёне практычна ўсе пастаўкі сланечнікавага алею.***

Гэты незаменны прадукт стаў іхняй "спецыялізацыяй" па ўсёй рэспубліцы. Фірма мае трывалыя сувязі з Расіяй (Стаўраполле, у асноўным), дзе мае свае прадстаўніцтвы, Украінай.

"Белстар-М" алей не вырабляе, аднак і не з'яўляецца пасрэднікам у доўгім ланцужку накручвання цэнаў, бо працуе напрамую з заводамі, і, адпаведна, са спажыўцамі.

Разам з тым, гэта не толькі гандлёвая арганізацыя. На Маладзечанскім харчкамбінаце ідзе ўстаноўка лініі па расфасоўцы алею ў літровыя пластыкавыя бутэлькі. Падобную аперацыю ніхто ў краіне не робіць, хіба толькі Бабруйск, але там бутэлькі шкляныя.

Застаецца дадаць, што працуюць у фірме ўсяго 7-8 чалавек, а да "Белстара" бабруйска-мінскага, пра які "РГ" пісала ў №19, ніякіх адносінаў яна не мае.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

# З вудаю на свята

***СМАРГОНЬ. Яшчэ гадоў з пяць таму работнікі Вішнеўскага Дома культуры збіралі ветэранаў вайны на прыродзе.***

Там яны вудзілі рыбу, гатавалі салдацкую юшку. Маладзейшымі былі. Традыцыя захавалася. Пасля "агеньчыка" у ДК, на які запрасілі 56 ветэранаў з калгаса "Савецкая Беларусь", сем'і загінуўшых на вайне,– усе елі смачную юшку. Праўда, рыбу куплялі ў магазіне, гатавалі па-жаноцку культработніцы.

Былога калгасніка Вінцука Петуха павіншавалі з Днём Перамогі пяцёра яго сыноў: работнік сувязі і механізатар– з ранку 9 мая, бо разам з бацькам жывуць, астатнія даслалі віншаванні з Віцебска, Украіны, Масквы.

*Аддзел інфармацыі.*

# Адзіны жывы сведка– бабуля Міронава

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. У вёсцы Заскавічы рэшткі пяці чырвонаармейцаў урачыста пахавалі ля помніка загінуўшым.***

Пошукавую работу праводзіла дабрачыннае таварыства "Святло". Толькі адна жанчына вёскі была сведкай расстрэлу ў пачатку саракавых. Напружваючы памяць, дапамагала вызначыць месца захавання расстраляных. Спачатку знайшлі патранташ, патроны, а потым і рэшткі. Захаваліся яны кепска, бо знаходзіліся ў пясчанай глебе. Не ўдалося даведацца і імёны тых, хто гераічна загінуў на беларускай зямлі.

*Аляксандр МІСЕВІЧ.*



# Ідэальныя людзі

***АСТРАВЕЦКІ Р-Н. У лесаводаў вясна адметная пасадкай лесу.***

Сёлета ў мясцовым лясгасе агульны план пасадак складае 150 гектараў. Самыя большыя плошчы неабходна будзе пасадзіць у Камелішскім і Падольскім лясніцтвах– адпаведна 46 і 29 гектараў. Па культурах жа раскладка выглядае наступным чынам: пад елку адведзена 27 гектараў, бярозу– 5. Астатнюю плошчу зоймуць змешаныя культуры, у прыватнасці сасна з бярозай і елкай. Адзначу, што будуць садзіць, хоць і на невялікай плошчы (0,7 гектара) у Міхалішскім лясніцтве цара дрэваў– дуб.

У народзе гавораць, што чалавек, які пасадзіў за сваё жыццё хоць адно дрэва– пражыў недарэмна. Лесаводы ў гэтым сэнсе ідэальныя людзі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Навошта яны нараджаюць?

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Нашы гуманныя законы не дазваляюць медыкам забараніць жанчыне нараджаць. Хаця яна не мае на гэта, здавалася б, ніякага маральнага права.***

Адну з такіх непрасохлых ад гарэлкі маці пяцёх дзяцей з Мясаты хацелі пазбавіць мацярынскіх правоў, але аказалася, што яна цяжарная шостым.

"Як вынесці такі прысуд цяжарнай жанчыне?"– разводзяць рукамі члены камісіі па справах непаўналетніх райвыканкома. А яе дзеці– заўсёды галодныя, паўраздзетыя. У хаце на ўсіх тры ложкі. Калі медыкі з райбальніцы прывезлі ім "Малютку", малыя лыжкамі елі гэты парашок.

Яшчэ прыклад: у сям'і са Скавародак– адзінаццаць дзяцей. У бацькі– адкрытая форма туберкулёза, лячыцца адмаўляецца. У выніку захварэла і трохгадовая дачка. Спецыяльнае пасяджэнне райвыканкома праводзілася па гэтай сям'і. Вырашылі афармляць дакументы для змяшчэння дзяцей у дом-інтэрнат, бо існуе рэальная пагроза іх здароўю.

–Сутыкаючыся з безадказнасцю бацькоў за лёс дзяцей, назіраючы гэтую дзікую бядноту, гэтых галодных, часта неданошаных, хранічна хворых дзяцей, медыкі лічаць адназначна: такім жанчынам нараджаць нельга,– гаворыць раённы падлеткавы ўрач Валянціна Навіцкая.– Аднак прадпрыняць што-небудзь без іх згоды мы не маем права. Вось таму і збіраем акты, пазбаўляем бацькоўскіх правоў.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

# Ветэранам уручылі медалі Астатнія разыходзіліся па дамах.

***МАЛАДЗЕЧНА. Пяцьдзесят год таму на дзявятае мая быў закладзены гарадскі парк культуры і адпачынку. Дзень Перамогі і юбілей святкавалі на летняй пляцоўцы ў парку. Тым, хто садзіў дрэўцы (а гэта пераважна ветэраны вайны) уручалі памятныя керамічныя медалі. Узнагародзілі чалавек пяцьдзесят.***

Сяргей Бычок, Віталь Качаткоў, студэнты Беларускага ўніверсітэта культуры, напісалі сцэнарый. Мастак Уладзімір Абрамян аформіў пляцоўку. Прафесійныя, самадзейныя калектывы, работнікі культуры зрабілі свята запамінальным.

Дзякуй богу, быў адрамантаваны ў парку туалет. Але стаіць ён, як і раней– без вокнаў і дзвярэй. Выглядае няспраўным– абвалілася тынкоўка. Таму і не было ў яго шмат наведвальнікаў. Людзі спяшаліся дамоў– безалкагольных напояў, піва было больш, чым дастаткова.

*Аддзел інфармацыі.*

# Суд прадае мэблю

***"Суд Астравецкага раёна рэалізуе гатовую прадукцыю камбіната будматэрыялаў... Прадукцыя знаходзіцца на тэрыторыі ХБМ".***

Аб'яву такога дзіўнага зместу можна ўбачыць на спецыяльных дошках у райцэнтры. З якой нагоды раённы суд заняўся нязвыклай для сябе справай?

Напачатку сакавіка мінулага года Астравецкі камбінат будаўнічых матэрыялаў узяў у Ашчадбанку 150-мільённы крэдыт для закупкі сыравіны. Браў на два з палавай месяцы, але ў вызначаны час разлічыцца не здолеў, таму папрасіў адтэрміноўку яшчэ на месяц. Натуральна, яшчэ пад больш высокія працэнты.

Крэдыт– рэч каварная. Ён можа стаць сапраўднай кабалой для даўжніка, калі ў яго кішэнях надоўга пасяліўся вецер. Эканамічны і фінансавы стан прамысловых прадпрыемстваў сёння вядомы, выправіць яго нават у дзяржаўных маштабах не ўдаецца, не тое што саматугам. Так выйшла і з камбінатам. Вярнуць доўг банку ён не здолеў і праз год. Сума ж за гэты час значна вырасла і дасягнула 307 мільёнаў рублёў.

Астравецкае аддзяленне Ашчадбанка вымушана было звярнуцца ў абласны гаспадарчы суд, які вынес рашэнне аб спагнанні даўгоў з усімі працэнтамі. Праўда, частка грошай была пералічана і сума зменшылася да 216,8 мільёна рублёў. Але паколькі такіх сродкаў на рахунку прадпрыемства няма, вырашана прадаваць прадукцыю– мэблю, ліналеўмную плітку, дошкі, аконныя і дзвярныя блокі. Цэны памяркоўныя. Застаецца спадзявацца, што знойдуцца і нябедныя пакупнікі.

*Таццяна СЁМІНА.*





Не стала Аляксандра Яўстаф'евіча АЛЬШЭЎСКАГА– сябра і прыхільніка нашай газеты. Смерць ніколі не чакаюць. Тым больш, калі табе няма і сарака. Заўсёды бадзёры і поўны сапраўднага аптымізму, ён рабіў аптымістамі і тых, хто меў шчасце з ім сустракацца, працаваць. Ніколі больш не пачуем прыветлівы і мяккі голас у тэлефоннай трубцы, пры сустрэчы. Мы прыносім самыя шчырыя спачуванні жонцы Зоі Барысаўне, дзецям Дзіне і Юрыю, радні, усім тым, хто працаваў побач з Аляксандрам Яўстаф'евічам у Маладзечанскім аўтапарку №4.

Рэдакцыя
"Рэгіянальнай газеты".

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне работніку друкарні "Перамога" Віктару Іванавічу Масілевічу з прычыны смерці БРАТА.

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 20 мая

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 "Цвет папоротника". Ф/к. 8.50 "Кортик". Х/ф. 1-я и 2-я с. 11.10 М/ф. 11.40 Телевизионный Дом кино. 12.10 "Первая скрипка". Памяти Льва Горелика. 15.00 Новости. 15.15 "Флиппер". 15.40 ТВ — школе. 16.00 Мастерская. 16.30 "На добрый лад". 16.50 Параграф. 17.20 "Крок". 17.50 Экономикст. 18.00 Открытие форума "Экомир-96". 19.00 Новости. 19.10 "Риск-версия". 19.45 "Это мы не проходили..." 20.00 "Острый угол". 20.30 Форум национальных культур Беларуси. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.10 "Тени забытых предков". Х/ф. 23.45 "Экомир-96". 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 7.40 "Выборы-96". 7.50 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40 Новости. 8.15 "Секрет тропиканки". 9.05 Поле чудес. 10.05 Человек и закон. 10.30 "Угадай мелодию". . 11.10 ТРК "Мир". 14.20 "Волшебные истории". М/ф. 14.45 Марафон-15. 15.00 Звездный час. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 Джэм. 16.30 "Семь дней спорта". 17.20 "Секрет тропиканки". 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". 19.05 "Если..." 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.40 "Выборы-96". 20.50 Сериал "Виртуальная реальность". 21.50 "До и после..." 22.50 Х/ф "Замри — умри — воскресни".

### Канал "Россия"

17.20 Тележурнал "О.Т.". 17.30 L-клуб. 18.15 "Выбирай, а то проиграешь". 18.25 Гражданская оборона. 19.00, 22.00, 23.30 Вести. 19.35, 21.10 Выборы-96. 19.50 "Санта-Барбара". 20.40 Бочка меда. А.Арканов. 21.25 Погода на завтра. 21.30 "Русский транзит". Х/ф. 1-я и 2-я с. 23.45 Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

13.00 и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". 13.05 Срок ответа сегодня. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 "Первая любовь". 15.05 "Пригороды Петербурга". 16.05 Стиль жизни. 16.10 "Зеркала Эрмитажа". Т/ф. 16.20 "Большие приключения Мэдса". М/ф. 16.25 "Философия по Филу". Сериал (Франция). 1-я с. 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.05 Детское ТВ. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 "Первая любовь". 20.05 Выбираем Президента. Власов Ю.П. 20.45 Что наша жизнь... 21.00 Спорт. 21.05 Концерт Вики Цыгановой. 22.05 "На ночь глядя". 22.20 "Женатый холостяк". Х/ф.

### НТВ

17.00 М/ф "Семейка Флинстоун". 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00, 23.00 "Сегодня". 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф "Тайный сад" (Великобритания). 20.50 Доктор Угол. 21.35 "Доктор Куин, женщина-врач". 22.30 Времечко. 23.20 Теннис в полночь.

## Вторник, 21 мая

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 ТВ — школе. 9.20 "Это мы не проходили..." 9.35 "Кортик". Х/ф. 3-я с. 10.45 М/ф. 11.05 "Не сгуби древо жизни". Д/ф. 11.55 Музыка без границ. 12.35 "Цыганка Аза". Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 "Все про все". 16.00 ТВ — школе. 16.35 Педагогический экран. 16.50 "Гомель-96". 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 "На склонах древнего вулкана". Д/ф. 18.15 Будьте здоровы. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости. 19.05 "Кобра". 4-я с. 19.55 Форум национальных культур Беларуси. 20.05 Вертикаль. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф "Возвращение Баттерфляй". 23.50 "Экомир-96". 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 7.40 "Выборы-96". 7.50 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.00 Новости. 8.15 "Секрет тропиканки". 9.05 "Если..." 9.45 Смехопанорама. 10.15 "Король и дыня". М/ф. 10.30 "Угадай мелодию". 11.10 ТРК "Мир". 14.20 "Звездный ковчег". М/ф. 14.35 "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. 14.45 Кварьете "Веселая квампания". 14.55 Мультитроллия. 15.10 Волшебный мир, или Синема. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 ...До шестнадцати и старше. 16.30 "Семь дней спорта". 17.20 "Секрет тропиканки". 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". 19.00 "Тема". 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.40 "Выборы-96". 20.50 Х/ф "Лев Толстой". 0.20 MTV.

### Канал "Россия"

6.15 "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. 6.45, 7.50, 19.35, 21.10 Выборы-96. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.30 Вести. 7.20 В этот день... 7.30 Деловая Россия. 8.05 "Лицо с обложки". А.Апина. 8.20 L-клуб. 9.05 "Санта-Барбара". 9.55 Клип-антракт. 13.50 Ретро-шлягер. 14.20 Футбол без границ. 14.50 21 кабинет. 15.20 "Новая семья". Д/ф. 15.35 Там-там новости. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Россия в лицах. 16.45 Клип-антракт. 16.55 "Девочка из завтра". 17.20 Тележурнал "Здоровье". 17.30 Проще простого. 18.00 Ничего, кроме. 18.15 "Выбирай, а то проиграешь". 18.25 Чрезвычайный канал. 19.50 "Санта-Барбара". 20.40 Джентльмен-шоу. 21.25 Погода на завтра. 21.30 "Русский транзит". Х/ф.

### Санкт-Петербург

11.55 и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". 12.05 "Первая любовь". 13.05 Срок ответа сегодня. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 "Жара в Акапулько". 1-я с. 15.05 "Записано золотыми буквами". Т/ф. 15.35 Овертайм. 16.05 Стиль жизни. 16.10 "Под сенью липовых аллей". Т/ф. 16.20 "Большие приключения Мэдса". М/ф. 16.25 "Философия по Филу". 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 "Первая любовь". 20.05 Встреча с Ларисой Долиной. 20.45 Что наша жизнь... 21.00 Спорт. 21.05 "Жара в Акапулько". 22.05 На ночь глядя. 22.20 "Маленький апокалипсис". Х/ф (Франция — Италия).

### НТВ

17.00 М/ф "Семейка Флинстоун". 17.30 "Состоятельная женщина: быть лучше". 18.00, 21.00, 23.00 "Сегодня". 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф "Кук и Пири. Путь к полюсу" (США). 20.45 Доктор Угол. 21.35 "Доктор Куин, женщина-врач". 22.30 Времечко. 23.20 В поисках приключений. 23.50 Меломания: Группа "Шедоуз".

## Среда, 22 мая

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 "Обыкновенные чудеса". Ф/к. 9.00 ТВ — школе. 9.35 "Кобра". 10.25 "Зорная ростань". 11.05 Усадьба. 11.35 Видимо-невидимо. 12.35 "Бронзовая птица". Х/ф. 1-я с. 15.00 Новости. 15.15 "Флиппер". 15.40 Сельчане. 16.10 Концертный сезон. 17.00 Кредо. Быть ли ядерной энергетике в Беларуси? 17.20 Гости в дом. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 "Звезда-полынь". 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости. 19.00 Открытие 1 Национального фестиваля "Музыка и театр". 19.55 Форум национальных культур Беларуси. 20.00 "Кто это?" Телеигра. 20.05 Супергол. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 "Закон Бэрка". Х/ф. 23.05 "Экомир-96". 23.15 1 Национальный фестиваль "Музыка и театр". 2-е отд. 0.40 Королевская охота.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 7.40 "Выборы-96". 7.50 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30 Новости. 8.15 "Секрет тропиканки". 9.05 "Тема". 9.45 "В мире животных". 10.30 "Угадай мелодию". 11.10 ТРК "Мир". 14.20 "Звездный ковчег". 14.35 "Приключения капитана Врунгеля". 14.45 Кактус и К. 14.55 До-ми-соль. 15.10 Зов джунглей. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 "Тет-а-тет". 16.30 "Семь дней спорта". 17.20 "Секрет тропиканки". 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". 19.05 "В поисках утраченного". 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.40 "Выборы-96". 21.00 Футбол. Лига чемпионов. Финал. 23.50 "Цыганские песни и романсы".

### Канал "Россия"

6.15 "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. 6.45, 7.50, 19.35, 21.10 Выборы-96. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.30 Вести. 7.20 В этот день... 7.30 Деловая Россия. 8.05 Проще простого. 8.35 Бочка меда. А.Арканов. 9.05 "Санта-Барбара". 9.55 Клип-антракт. 13.50 Ретро-шлягер. 14.20 "Гладиаторы". 15.15 Волшебный чемодан. 15.30 Там-там новости. 15.45 Дети — детям. 16.20 Россия в лицах. 16.50 "Девочка из завтра". 17.15 Оставайтесь в шляпе. 17.45 Своя игра. 18.15 "Выбирай, а то проиграешь". 18.25 До Москвы — далеко... 19.50 "Санта-Барбара". 20.40 Сам себе режиссер. 21.25 Погода на завтра. 21.30 "Русский транзит". Х/ф. 23.45 Арт-обстрел.

### Санкт-Петербург

11.55 и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". 12.05 "Первая любовь". 13.05 Срок ответа сегодня. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 "Жара в Акапулько". 15.05 "Нам рано жить воспоминаниями". Ф/к. 16.05 Стиль жизни. 16.10 "Кузнец". Т/ф. 16.20 "Большие приключения Мэдса". М/ф. 16.25 "Философия по Филу". 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 "Первая любовь". 20.05 Выбираем президента. Жириновский В.В. 20.45 Что наша жизнь... 21.00 Спорт. 21.05 "Жара в Акапулько". 22.05 На ночь глядя. 22.20 Футбольный матч на кубок Виктора Набутова.

### НТВ

17.00 М/ф "Семейка Флинстоун". 17.30 "Состоятельная женщина: быть лучше". 18.00, 21.00, 23.00 "Сегодня". 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф "Дама с камелиями" (Великобритания). 20.45 Доктор Угол. 21.35 "Доктор Куин, женщина-врач". 22.30 Времечко. 23.20 Баскетбол. 23.50 Кафе Обломов.

## Четверг, 23 мая

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 "Успех у мужчин. Короткое руководство". Д/ф. 9.15 М/ф. 9.45 "Бронзовая птица". Х/ф. 2-я с. 10.50 Королевская охота. 11.30 "Игра всерьез". Д/ф. 11.55 А.Богатырев. Опера "В пущах Полесья". 15.00 Новости. 15.15 "Флиппер". 15.40 Родовод. 16.20 ТВ — школе. 16.50 Уроки Н.Новожиловой. 17.20 Арсенал. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Чем богаты... Оздоровление детей в санатории "Беларусь" (Литва). 18.15 "Ой, летала серая перепелка". Д/ф. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости. 19.05 "Кобра". 19.55 Лотерея "Твое жилье". 20.05 "Оскар". Телеигра. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 "Закон Бэрка". Х/ф. 23.05 "Экомир-96". 23.15 "Крок". 23.45 Телевизионный Дом кино.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 7.40 "Выборы-96". 7.50 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости. 8.15 "Секрет тропиканки". 9.05 Футбол. Лига чемпионов. Финал. 11.10 ТРК "Мир". 14.20 "Звездный ковчег". 14.35 "Приключения капитана Врунгеля". 14.45 Лего-го!. 15.10 Тин-Тоник. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 Рок-урок. 16.30 "Семь дней спорта". 17.00 Новости. 17.20 "Секрет тропиканки". 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-Миллион. 19.00 "Один на один". 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.40 "Выборы-96". 20.50 Все фильмы Рязанова. Авторская версия х/ф "О бедном гусаре замолвите слово".1-я с. 22.30 "Обоз". 23.30 Х/ф "Благодать". 0.30 "Поет Андрей Миронов".

### Канал "Россия"

6.15 "Дон Кихот Ламанчский". М/ф (Испания). 6.45, 7.50, 19.35, 21.10 Выборы-96. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.00 Вести. 7.20 В этот день... 7.30 Деловая Россия. 8.05 Своя игра. 8.35 Сам себе режиссер. 9.05 "Санта-Барбара". 9.55 Клип-антракт. 13.50 Ретро-шлягер. 14.20 Репортер. 14.35 Пилигрим. 15.15 Клип-антракт. 15.20 Кенгуру. 15.35 Там-там новости. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Россия в лицах. 16.45 Клип-антракт. 16.55 "Девочка из завтра". 17.20 Золотая визитка. 17.30 Проще простого. 18.00 Ничего, кроме. 18.15 "Выбирай, а то проиграешь". 18.25 "Шестое чувство". 19.50 "Санта-Барбара". 20.40 Эх, дороги! 21.25 Погода на завтра. 21.30 "Комедия строгого режима". Х/ф. 23.15 Певческие биеннале "Москва — Санкт-Петербург".

### Санкт-Петербург

11.55 и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". 12.05 "Первая любовь". 13.05 Срок ответа сегодня. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 "Жара в Акапулько". 15.05 "Контрасты". Фильм-концерт. 16.05 Стиль жизни. 16.10 "Эхо над площадью". Т/ф. 16.20 "Большие приключения Мэдса". М/ф. 16.25 "Философия по Филу". 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 "Первая любовь". 20.05 "Я — гений". 20.45 Что наша жизнь... 21.00 Спорт. 21.05 "Жара в Акапулько". 22.05 На ночь глядя. 22.20 "Чужой дом". Х/ф.

### НТВ

17.00 М/ф "Семейка Флинстоун". 17.30 "Состоятельная женщина: быть лучше". 18.00, 21.00, 23.00 "Сегодня". 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф "Назад в СССР". 20.30 Доктор Угол. 20.40 Глас народа. 21.35 "Доктор Куин, женщина-врач". 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф "Долой стыд!"

## Пятница, 24 мая

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 "Еще не вечер..." 8.30 "Карнавал". Фильм-концерт. 9.00 ТВ — школе. 9.30 "Кобра". 10.20 Д.Смольский. Опера "Седая легенда". 12.00 "Бронзовая птица". Х/ф. 3-я с. 15.00 Новости. 15.15 Открытие Форума национальных культур Беларуси. 16.20 Открытие фестиваля "Золотой Витязь". 17.15 Контрасты. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 День славянской письменности. 18.15 Мастерская. Художник Леонид Лапчинский. 18.40 Экономикст. 18.50 Новости. 19.05 "Кобра". 19.55 "Экомир-96". 20.05 Форум национальных культур Беларуси. 20.10 "Международный курьер". 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 "Закон Бэрка". Х/ф. 23.05 "12, или На ночь глядя". 23.25 Акколада. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 7.30 "Выборы-96". 7.50 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Новости. 8.15 "Красная Шапочка". М/ф. 8.30 День славянской письменности и культуры. 9.30 "Секрет тропиканки". 10.25 "Играй, гармонь любимая!". 11.10 ТРК "Мир". 14.20 "Звездный ковчег". 14.35 "Приключения капитана Врунгеля". 14.45 "Шел трамвай десятый номер..." Спектакль. 15.10 "Северное сияние". 15.40 "Элен и ребята". 16.05 "... До шестнадцати и старше". 16.30 "Семь дней спорта". 17.20 "Секрет тропиканки". 18.15 Человек и закон. 18.45 "Поле чудес". 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.40 "Выборы-96". 20.50 "О бедном гусаре замолвите слово". 2-я серия. 22.30 Взгляд. 23.25 Х/ф "Пропавшая грамота".

### Канал "Россия"

6.15 "Дон Кихот Ламанчский". М/ф (Испания). 6.45, 7.50, 19.35, 21.10 Выборы-96. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.40 Вести. 7.20 В этот день... 7.30 Деловая Россия. 8.05 Проще простого. 8.35 Эх, дороги! 9.05 "Санта-Барбара". 9.55 Клип-антракт. 13.50 Ретро-шлягер. Валентина Пономарева. 14.20 "Абзац". 15.15 Волшебный чемодан. 15.30 "Не переживай..." 15.45 Там-там новости. 16.20 "Палехские мастера". 16.50 "Зорро". Х/ф. 17.45 Астрология любви. 18.15 "Выбирай, а то проиграешь". 18.25 Вертикаль. 19.50 "Санта-Барбара". 20.40 Маски-шоу. 21.25 Погода на завтра. 21.30 Информационно-развлекательная программа. 23.10 Подиум. 23.55 "Дафнис и Хлоя". Х/ф.

### Санкт-Петербург

11.55 и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". 12.05 "Первая любовь". 13.05 Срок ответа сегодня. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 "Жара в Акапулько". 15.05 "Павловские музы". Ф/к. 16.05 Стиль жизни. 16.10 "Памятник". Т/ф. 16.20 "Большие приключения Мэдса". М/ф. 16.25 "Философия по Филу". 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 "Первая любовь". 20.05 "Без названия". 20.45 Что наша жизнь... 21.00 Спорт. 21.05 "Жара в Акапулько". 22.05 "Как быть любимыми". 22.20 "Колье Шарлотты". Х/ф. 1-я с.

### НТВ

17.00 М/ф "Семейка Флинстоун". 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00, 23.00 "Сегодня". 18.35 Герой дня. 19.00 "Кубок Стенли". Полуфинал. 21.35 "Доктор Куин, женщина-врач". 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф "Любовники Марии" (США). 1.10 Эротические шоу мира.

## Суббота, 25 мая

### Белорусское телевидение

8.00 Новости. 8.15 Олимпийский силуэт. 8.35 Сущность. 9.15 Здоровье. 9.50 Уроки Н.Новожиловой. 10.20 Все про все. 11.05 "Ералаш". 11.25 Мир природы и увлечений. 12.10 Путешественник. 12.40,15.20,17.15 Форум национальных культур Беларуси. 12.55 Многоголосие. 13.25 MTV. 14.10 Коллаж. 14.40 Белорусский дом. 15.40 "Зорная ростань". 16.20 Четвертое измерение. 17.30 Галерея. 18.00 Закрытие телефорума "Экомир-96". 19.20 "Анна Каренина". Х/ф. 1-я с. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.40 "Экомир-96". 21.55 Ф.Феллини. "И корабль плывет". Х/ф (Италия). 1-я ч. 23.15 Видимо-невидимо. 0.15 Темная комната.

### ОРТ

7.00 "Ералаш". 7.20 "Я, Франциск Скорина...". Х/ф. 9.00, 14.00, 16.50 Новости. 9.15 Слово пастыря. 9.30 "Не зевай!". 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.55 Эрмитаж. 11.25 Х/ф "Баллада о солдате". 12.50 Бомонд. 13.10 "Умники и умницы". 14.20 "Автомобиль и я". 14.40 Фильм-сказка ."Подарок черного колдуна". 15.40 "Америка с М.Таратутой". 16.10 В мире животных. 17.15 "Вокзал для двоих". Х/ф. 19.45 "Спокойной ночи, малыши!". 20.00 Время. 20.45 Что? Где? Когда?. 22.00 "Дни". 22.45 Х/ф "Ночь в опере".

### Канал "Россия"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 22.25 Вести. 7.20 В этот день... 7.30 Всего понемногу. 8.20 М/ф. 8.45 "Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима". 9.00 Золотой ключик. 9.15 Продленка. 9.30 Устами младенца. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Доброе утро, Европа. 10.45 Путешествие "Инвайт". 11.00 Парламентская неделя. 11.45 Лицо с обложки. 12.00 Русское поле. 12.30 "Поэт в России — больше, чем поэт". 13.20 Де факто. 13.50 "Женщина со средствами". Т/ф. 14.40 Бесконечное путешествие. 15.20 Песня России. 16.15 Антреприза. Н.Акимов. 17.10 Кому верить? 17.50 М/ф. 18.00 Двойной портрет. 19.35 Аншлаг и К. 20.30 Репортер. 20.45 Погода на завтра. 20.50 "Готика". Х/ф (Великобритания). 22.40 Субботний вечер с группой "Квин".

### Санкт-Петербург

8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ "Сейчас". 9.05 Страсти-мордасти. 9.20 Уик-энд с детективом. 9.50 "Музыка часов". Т/ф. 10.00 "Честь имею". 10.20 "Непознанное". 11.05 Стиль жизни. 11.10 Ток-шоу "Наобум". С.Шакуров. 11.40 По всей России. 11.55 Мы и банк. 12.15 Еще одна Россия. 12.40 "Старое танго". 13.05 Уик-энд с детективом. 13.20 "Утро без отметок". Х/ф. 14.25 "Солист". Фильм-концерт. 15.05 Сокровища Петербурга. Эрмитаж. 15.20 Парадоксы истории. 15.50 Детское ТВ. 16.25 "Баламуты". Программа для детей. 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 Плац-концерт духовых оркестров. 18.20 "Плохая примета". Х/ф. 19.05 Профессиональный бокс. Бой за звание чемпиона Европы. 20.30 "Фиеста" воздушных шаров. 21.05 Блеф-клуб. 21.45 "Колье Шарлотты". Х/ф. 2-я и 3-я с.

### НТВ

17.00 М/ф "Динозаврик по имени Динк". 17.30 "Дог-шоу. Я и моя собака". 18.00, 21.00 "Сегодня". 18.30 "Характеры". 19.10 "Полиция Майами. Отдел нравов". 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.35 Х/ф "Бразилия" (Великобритания-США-Франция). 0.00 Третий глаз. 0.45 "Плейбой".

## Воскресенье, 26 мая

### Белорусское телевидение

8.00 "Про то, как..." Музыкальный фильм. 8.10 Колесо времени. 8.40 "Конан". М/ф. 9.05 Фестиваль "Телебом". Финал. Ч. 2-я. 10.15 Студия "Колыбельная". 10.45 "Праздничный автограф". 11.25 Все нормально, мама! 11.55 Туробъектив. 12.15 Победитель. 12.35 MTV. 13.05 Вершина мира. 13.25, 17.00 Форум национальных культур Беларуси. 13.40 Авто-парк. 13.55 "Дикий юг". Научно-популярный сериал. 14.25 Египетские зарисовки. 14.35 Театр в кресле. 15.15 Музыкальная программа к Дню химика. 16.05 Мост. 16.30 Бездельник. 18.00 Банка комиксов. 18.30 "Анна Каренина". 2-я с. 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Спортивный телекурьер. 20.55 Новости-ТВ. 21.10 Ток-шоу "Карамболь". 21.45 "И корабль плывет". Х/ф. 2-я ч. 23.05 Телевизионный Дом кино. 23.35 "Бархатный сезон". 0.05 Чемпионат Беларуси по культуризму.

### ОРТ

7.00 "Ералаш". 7.20 Тираж "Спортлото". 7.30 Х/ф "Я, бабушка, Илико и Илларион". 9.00 14.00, 23.20 Новости. 9.15 "Непутевые заметки". 9.30 Пока все дома. 10.10 Утренняя звезда. 11.00 "Служу России!". 11.30 "Играй, гармонь любимая!". 12.00 "Провинциальные истории". 12.25 Очевидное-невероятное. 12.55 Смехопанорама. 13.25 "Тайны пиратских кладов". 14.20 "Музыка в эфире". 15.05 "Как-то раз". 15.15 Клуб путешественников. 16.05 Мультфейерверк. 17.10 Концерт Вахтанга Кикабидзе. 18.05 "Клуб "Белый попугай". 19.00 Время. 19.40 Х/ф "Кабаре". 22.05 Футбольное обозрение. 22.35 "Три сестры". Спектакль. 23.40 Любовь с первого взгляда. 0.25 MTV.

### Канал "Россия"

7.00 В этот день... 7.10 Всего понемногу. 8.00 Не вырубить... 8.15 Вас приглашает газета "Иностранец". 8.30 Гостиница деда Мазая. 8.45 "Большие-маленькие". 9.00 Футбол без границ. 9.30 "Честь имею!" 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 10.55 М/ф. 11.05 Звуковая дорожка. 12.00 Истоки. 12.30 Книжная лавка. 13.00, 22.50 Вести. 13.20 Клип-антракт. 13.25 "Женщина со средствами". Т/ф. 14.15 Караоке по-русски. 14.35 Империя игр. "На воде, на земле и в воздухе". 15.30 "Воспоминания об учителе..." 16.00 Колесо истории. 17.00 "Чокнутый", "Аладдин". М/ф. 17.55 Момент истины. 18.45 Клип-антракт. 19.00 Зеркало. 19.55 Погода на завтра. 20.00 "Тридцать три". Х/ф. 21.25 "Поцелуй в диафрагму". 22.20 У Ксюши. 23.05 Рек-тайм.

### Санкт-Петербург

8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ "Сейчас". 9.05 "Большой прием во Дворце". Т/ф. 9.20 "Эрмитаж. Зал номер ноль". Д/ф. 9.45 Весь этот цирк. 10.05 Стиль жизни. 10.20 Пасхальный фестиваль. Песнопения. 11.05 Личное дело. 11.35 Еще одна Россия. 12.20 Овертайм. 12.35 Храм. 13.10 "Иосиф Бродский. Немного о себе" Т/ф. 13.50, 17.35 Шоу "Кубок президента". 15.05 Обманутые вкладчики: разрешение проблемы. 16.35 Детское ТВ. 19.10 "Проводы белых ночей". Х/ф. 20.35 "Статуи над городом". Т/ф. 21.05 Петербургские звоны. 21.30 Ноу смокинг. 22.15 Международное обозрение. 22.40 Заключительный концерт фестиваля "Музыкальная весна-96".

### НТВ

17.00 "Полицейский Кэттс и его собака". 17.30 Телеигра "Сто к одному". 18.00 "Сегодня". 18.30 Музыкальная программа "Овация". 19.00 "Полиция Майами. Отдел нравов". 20.00 Итоги. 21.10 Х/ф "Лицо со шрамом" (США). 23.55 Автогонки "Индикар".

